# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 2 (624)
Люты 2018 г.


# Да пытаньня аб чарговай афёры рэжымнай улады



Ніколі б ні пісаў пра піраміды, біткоіны, блёкчэйны ды так званую “крыптавалюту”, калі б у паветры ні зьявіўся чарговы дэкрэт рэжыму “Аб разьвіцьці лічбавай эканомікі”. Згодна гэтага опуса, беларусам дадуць магчымасьць ствараць біржы так званай “крыптавалюты”, здабываць і абменьваць “крыптафантомы” на рэальныя грошы. Пры тым, ня будуць браць за тое падаткаў.

Шкода беларусаў, якіх зноў (у каторы раз) ашукаюць на мякіне, скарыстаўшы заганны інстынкт “халявы” і элементарнае няведаньне, што такое грошы, і як яны існуюць.

Шляхам матэматычных маніпуляцыяў (дапусьціўшы адну непрыкметную недакладнасьць) можна, напрыклад, “даказаць”, што 2 х 2 = “5”, але ў рэальнасьці ўсё ж гэта будзе “4”.

Тое ж і з грашыма, і з словаблудзтвам пра “крыптавалюту”. Грошы, як эквівалент, трымаюцца на трох умовах (“трох кітах”). Гэта на эканоміцы (стварэньні матэрыяльных каштоўнасьцяў), на залатым і валютным запасах краіны.

Усялякая ідэя, прададзеная на рынку, пераходзіць у грашовы эквівалент тады, калі яна матэрыялізуецца ў рэальную матэрыяльную каштоўнасьць (тавар). Да матэрыялізацыі – гэта альбо толькі магчымасьць, альбо фантом. І калі ён праплочаны, але не рэалізаваны, то будзе стратным чыньнікам бюджэтнай і эканамічнай палітыкі.

Гандаль фантомамі можа быць прыстасаваны ў сыстэме блёкчэйн і так званага “біткоіна”, які рэальнай валютай не зьяўляецца. Словаблудзтва, якое зараз круціцца вакол дэкрэта Лукашэнкі, сьведчыць аб тым, што задумана чарговая піраміда “МММ” (вельмі на гэта падобная, толькі без Маўродзі). Нехта, відаць, унушыў правіцелю, што, маўляў, выйсьце ёсьць, можна “зрубаць” мільярды, і нават у міжнародным маштабе (асабліва калі пад працэс біткоіна падключыць энэргію будучай Астравецкай АЭС). Але калі ўсё абваліцца (а яно абваліцца), і самахоць абрабаваныя суайчыньнікі залемантуюць – тады ўсё можна будзе зваліць на Трампа ды на міжнародныя маніпуляцыі амэрыканскага капіталу. Усё роўна ж ніхто з “падданых” у гэтым (і ні ў чым) не разьбіраецца. Палітычны кляс зьнішчаны. Нацыянальнай эліты ўжо няма. “Крыптаэканоміка” дэкрэту – гэта як нехта рашыў бы разбагацець, гуляючы ў казіно. Мясцовыя лібэраль-гаваруны разважаюць пра міжнародны “прарыў”, хваляць правіцеля, які раптам зьдзівіў сьвет сваім “сучасным” “мысьленьнем” і становіцца міжнародным “гульцом” (так і пішуць). Засталося толькі прайграць “народзец” у карты.

Дарэчы, нагадаю аб здольнасьці суб’екта, што выдае дэкрэты, да самых дзікіх авантур. (Пра дэкрэт № 3 аб “дармаедах” ужо ня кажам.) Яшчэ ў 1997 годзе, напрыклад, да правіцеля дастукаўся нейкі Віктар Лац, які прапанаваў праект вечнага рухавіка, што будзе забіраць энэргію гравітацыйнага поля Зямлі. Трэба толькі зладзіць амплітуду гравітацыйных ваганьняў. Начальнік рэжыму выдзеліў 700 мільёнаў рублёў (па курсу 1997 года) на рэвалюцыйную справу. Яго падтрымаў “інтэлектуал” Шэйман, а іншы “інтэлектуал” – Пётра Пракаповіч, які займаў тады пасаду віцэ-прэм’ера ўраду, – выдаў дэрэктыву Беларускаму электрамэханічнаму заводу і заводу імя Казлова ажыцьцявіць праект (нягледзячы на заключэньне Акадэміі Навук аб прынцыповай немагчымасьці зрабіць пэрпэтуум мобіле). Неўзабаве агрэгат быў скляпаны, але энэргіі не даваў. Кажуць, што гэтая канструкцыя яшчэ і цяпер іржавее на задворках завода. (Пра гэта: “Беларускія Ведамасьці”, – 1998, №3(13), с. 13-14).

Праўда, усе гэтыя “вечныя рухавікі”, “дрэваапрацоўчыя камбінаты”, “дармаеды” і т. п. – дробязі, у параўнаньні з плянамі ўзбагаціцца на рулетцы міжнародных крыптапірамідаў, пакуль у гэтым яшчэ ніхто не разабраўся. Потым разьбяруцца.

*27 сьнежня 2017 г.* ***Зянон ПАЗЬНЯК***

## Запрашаем на Ґуканьне вясны

Шаноўныя беларусы, калі вам надакучылі зімовыя маразы ды завірухі, запрашаем адзначыць з намі старадаўні абрад Ґуканьня вясны, як гэта рабілі нашыя продкі штогод. Сьвяткаваньне адбудзецца ў маляўнічых мясьцінах на ўзьбярэжжы Ґудзону прыкладна 40 хвілін ад Мангэтану каля станцыі цягніку **Ossining** у суботу **24 лютага 2018 году** а **12-й** гадзіне папаўдні па адрасу: ***1 Westerly Road, Ossining, NY 10562***.



Падсілкуемся традыцыйнымі абрадавымі стравамі ў клюбе, а тады ў строях будзем вадзіць карагоды і прасіць птушак прынесьці доўгачаканую вясну на сваіх крылах. Падчас кульмінацыі сьвята пусьцім саламяную ляльку (а зь ёю і ўсе непрыемнасьці і цёмныя думкі) па хвалях паўнаводнага Ґудзону.

Кошт удзелу **$15** ад асобы. Зьвяртайцеся да арганізатараў **Пятра** і **Алены Рыжых** *(914) 522-0742* ці *lenabelarus@yahoo.com*, а таксама да **Ґанны Шарко** і **Аляксандра Мазгавога** *sharkohanna@gmail.com*.

# Студзеньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 13 студзеня 2018 году, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы, студзеньскі, сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка павіншаваў усіх прысутных з наступіўшым Новым годам, пажадаў плёну ва ўсіх справах, удачы і здароўя, а таксама энэргіі й жаданьня ўдзельнічаць у грамадзкіх беларускіх справах, каб дапамагаць Згуртаваньню "Пагоня".

Затым сп. Зайка адзначыў, што ў наступіўшым годзе будзе адзначаецца самая важная дата нашай найшоўшай гісторыі: 100-годзьдзе абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Прамоўца спыніўся на перадгісторыі й міжнародным кантэксьце падзеяў 100-гадовай даўніны, пачынаючы зь Першай сусьветнай вайны і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году, што адкрылі новыя шляхі ў справе самавызначаньня народаў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, і ў іх ліку беларусаў. "Ад самага пачатку беларускія нацыянальныя дзеячы прынялі актыўны ўдзел у перайманьні ўлады на беларускіх землях, стварал мясцовыя структуры і змагаліся супраць шавіністычных і вялікадзяржаўных сілаў. Пасьля прыходу да ўлады бальшавікоў і разгону Першага ўсебеларускага зьезду абраныя структуры яго пераналі правамоцнасьць і пасьля зацьвердзілі Першую і Другую Ўстаўныя Граматы, якімі была створаная Беларуская Народная Рэспубліка, а пасьля ў выніку інтэнсіўных дыскусіяў 25 сакавіка 1918 году была прынятая Трэцяя Ўстаўная Грамата, якой абвяшчалася незалежнасьць Беларусі ў ейных этнаграфічных межах у форме Беларускай Народнай Рэспублікі, адкідаўся падзел Беларусі ў выніку Берасьцейскай дамовы і выказвалася надзея, што "ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы". Менавіта ад гэтай падзеі, ад Акту 25 Сакавіка 1918 году, бярэ пачатак сучасная традыцыя беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, і менавіта да Акту 25 Сакавіка сягае дзяржаўная пераемнасьць сёнешняй Рэспубліцы Беларусь.

"У сувязі з гэтым варта ўважліва паставіцца што да выбару тэрмінаў і слоганаў да 100-годзьдзя абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі або Беларускай Народнай Рэспублікі, якую ўжо коратка завуць "100 год БНР". Лічу, што гэта не зусім слушна. БНР была абвешчаная ў іншы дзень чым 25 сакавіка, а менавіта Акт 25 Сакавіка ёсьць кульмінацыяй высілку нашых папярэднікаў. Гэтая дата, 25 Сакавіка 1918 году мусіла б быць сымболем памкненьняў і змаганьня ўсіх пакаленьняў беларусаў і жыхароў Беларусі ў найноўшым часе, нават калі да БНР яны ня мелі дачыненьня. Нацiск на "БНР" замест на "Незалежнасьць" памылковы, бо гэта завужае сэнс і дух даты 25 Сакавіка 1918 году. Палякі, напрыклад, не сьвяткуюць свой Дзень Незалежнасьці 11 лістапада 1918 году, як проста "100 год Другой Рэчы Паспалітай", а грузіны 26 траўня, як "100 год Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі", і тое ж латышы, летувісы ды іншыя. Для іх гэта 100 год Незалежнасьці, або аднаўленьня Незалежнасьці".

Затым прамоўца спыніўся на заплянаванай сьвяточнай імпрэзе, якую ладзіць Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня" сумесна з іншымі беларускімі арганізацыямі ў Амэрыцы.

Затым сп. В. Зайка даў слова сп-ні Ганьне Шарко, якая распавяла пра праграму імпрэзаў на сакавік месяц, якія рыхтуюцца ў сувязі з 100-мі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Сярод іх такія імпрэзы як конкурсы, інтэлектуальная гульня "Сапраўдныя беларусы", маладзёвая роварная акцыя са сьцягамі на Мангэтане, падсьветленьне ў бел-чырвона-белы колер вершаліны Эмпайр-Стэйт-Білдынгу, вечарына Беларускага Інстытуту Амэрыкі, і супольная для беларускіх арганізацыяў рэгіёну Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі ўрачыстая акадэмія, банкет і канцэрт 25 сакавіка ў Нью-Брансвіку, Нью-Джэрзі. А самай бліжэйшай імпрэзай мае быць традыцыйнае Гуканьне Вясны, якое плянуецца правесьці ў Осэнінгу, Нью-Ёрк, 24 лютага. Прысутных заклікалі сачыць за абвесткамі ў сеціве, у тым ліку на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку.



Сп. Віталь Зайка распавёў для гасьцей сходу пра мэты Згуртаваньня "Пагоня", пра дзейнасьць яго на карысьць падтрыманьня беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы. Калі была парушаная тэма юрыдычнай дапамогі для новапрыехаўшых, узьнікла спантанная дыскусія па пытаньнях зьмены легальнага статусу ў ЗША і былі згаданыя ў адмоўным сэнсе імёны адвакатаў і паралігалаў Мікалая Ікс і Рамана Куліка. Сваю думку па пытаньнях юрыдычнай ды іншай дапамогі новапрыбылым выказаў сп. Зьміцер Левіт. Спч-ня Насьця Сергіеня распавяла пра свой кінаклюб "Кіно-Віно" і пра заплянаваныя наступныя імпрэзы.

Затым перад прысутнымі выступіла пісьменьніца і журналістка Тацяна Заміроўская. Тацьцяна – аўтарка двух зборнікаў апавяданьняў "Жыцьце без шуму і болю" (АСТ, Масква, 2010) і "Вераб'іная рака" (АСТ, Масква, 2015). Яна супрацоўнічала з шэрагам незалежных беларускіх і расейскіх СМІ ("БелГазета", "Радые Рацыя", "Colta.ru"), шмат год працавала музычным крытыкам. Яе апавяданьні друкаваліся ў розных часапісах, у тым ліку "Сноб", "Волга", "НАШ", "Макулатура" ды інш. Тацьцяна кончыла журфак БДУ і Вышэйшую Школу Мастацтваў імя Мілтана Эйверы (Бард-калэдж).

заканчэньне на бачыне 3

# Вуснамі ваеннага ліхалецьця

## Рэцэнзія на аповед Алега Паўліва "Скалечаны лёс"

Нядаўна я меў нагоду сустрэцца на 24-м Форуме выдаўцоў у Львове (Ўкраіна) з таленавітым украінскім пісьменьнікам Алегам Паўлівым. І ён перадаў мне ў падарунак 11-ы выпуск альманаха "Беларус", у якім надрукаваы ягоны аповед "Скалечаны лёс"... Гэты твор мяне настолькі ўразіў, што я вырашыў напісаць рэцэнзію і данесьці яе да ўвагі ня толькі ўкраінскіх, але і беларускіх чытачоў.

Алег Паўліў, нягледзячы на свой малады ўзрост, мае тое, што ўласьціва дасьведчаным пісьменьнікам: уменьне ўважліва выслухаць чыйсьці перажыты боль. Ня толькі выслухаць, але і прыняць у сваё сэрца і насіць яго, як свой уласны. Адсюль – ягоныя нарысы і апавяданьні.

Апавяданьне "Скалечаны лёс", без перабольшаньня, можна параўнаць з творамі, што выходзілі з-пад пяра Васіля Стэфаніка (заўвага аўтара: найбуйнейшы ўкраінскі навэліст XX стагодзьдзя, аб творах якога расейскі пісьменьнік Максім Горкі пісаў: "Як коратка, моцна і страшна..."). Дзіўна, але менавіта Васіль Стэфанік нібы стаіць за плячыма маладога аўтара... А можа гэтая рыса – пранікнуцца чужым болем, як сваім – уласьцівая людзям той карпацкай зямлі, адкуль выйшла столькі таленавітых апавядальнікаў.

Калі чытаеш апавяданьне "Скалечаны лёс", то зьдзіўляешся: як падобнае могло адбыцца зь людзмі ў рэальным жыцьці? Такі сюжэт цяжка ўявіць. І цяжка паверыць, калі б гэта не распавяла шчырая душа.

Шчырасьць – гэта самая яркая рыса таленту маладога аўтара, безь якой ня можа адбыцца твор. Талент Алега толькі пачынае квітнець, дасягаць той велічыні, калі можна пісаць вялікія па памеру творы. Гэта відаць з апавяданьня "Скалечаны лёс": хуткая і непрадказальная сюжэтная лінія даўжынёю ў стагодзьдзе, ня можа ўпісацца ў рамкі кароткага жанру.

Новы твор, як і ранейшыя апавяданьні Алега, сыходзяць з надрукаваных старонак у бязьмежную прастору жыцьця. Ствараецца ўражаньне, што аўтар распавядае тое, што яму ў дзяцінстве распавялі людзі, азораныя сьвятлом Божай міласэрднасьці. Адсюль і засьвяціўся талент Алега – пачуць блізкага, які б ён ня быў і што б не зрабіў. Толькі той здольны даравацьб, хто можа зразумець. У такой спавядальнай цішыні творыць малады аўтар, і гэта ягоны натуральны стыль. Упэўнены, што ўжо неўзабаве Алег адважыцца на першы раман.

У заключэнне хацеў бы падзякаваць рэдакцыі альманаха "Беларус" за магчымасьць ня толькі беларускім, але і ўкраінскім пісьменьнікам публікаваць у ім свае творы.

Слава Ўкраіне! Жыве Беларусь!

***Зінові ФІЛІПЧУК, Львоў, адмыслова для "Вестак й Паведамленьняў"***



*Пісьменьнікі З. Філіпчук (зьлева) і А. Паўліў падчас сустрэчы на 24-м Форуме выдаўцоў у Львове*

# Студзеньскі сход

*заканчэньне з бачыны 2*

Напачатку Тацьцяна на сваім досьведзе распавяла пра тое, як творчаму беларусу без амерыканскай адукацыі паступіць ў мастацкую магістратуру і атрымаць MFA-ступень, што для гэтага патрэбна, як правільна скласці партфоліё і "як не звар'яцець, рыхтуючы магістэрскі тэзіс". Прамоўца спынілася на розьніцы паміж ступенямі MA і MFA, на сваіх штудыях і абароне дысэртацыі, а таксама агулам на асьпірантуры Бард, заснаванай Адольфасам і Ёнасам Мекасамі, іміграntамі зь Летувы. Таксама Тацьцяна распавяла пра спэцыяльную амэрыканскую візу O-1, візу для людзей з мастацкімі талентамі.

Тацяна Заміроўская, між іншага, адзначыла, што калі стварала свой мастацкі стэйтмэнт, дык палічыла што напэўна беларускі досьвед тут, у Амэрыцы, ня будзе прыняты пад увагу. Але знаёмыя сказалі, што кожны, хто хоча паступіць, мусіць пазначыць самаідэнтыфікацыю, свой досьвед росту і фармаваньня як творчай асобы. "І тады я спраўды падумала, што хоць пішу па-расейску, але я беларуская пісьменьніца. Задумалася над сучаснай беларускай літаратурнай творчасьцю. Чаму такі запатрабаваны ў Беларусі стыль магічнага рэалізму, напрыклад, яскрава бачны ў творах Паўла Касьцюкевіча і Альгерда Бахарэвіча? Гэта калі пад дыктатурай шукаеш вакольных, абыходных шляхоў, іншых сродкаў выказу. І вось такое дзіўнае, старонньяе – гэта цяпер і ёсьць нашае, беларускае. Думаю, што праз інкарпарацыю гэтага і сфармаваўся сучасны беларускі грамадзкі досьвед, які ўплывае і на досьвед мастацкі."



*Пісьменьніца Тацяна Заміроўская*

Тацьцяна таксама закранула пытаньні стыпэндыяў і фінансаваньня для тых, хто хоча пайсьці вучыцца ў мастацкай галіне. Яна падкрэсьліла, што цяпер каледжы, асабліва левалібэральныя, імкнуцца, насуперак таму, як яны разумеюць палітыку прэзыдэнта Трампа, дапамагаць імігрантам бяз сродкаў, а таксама і нелегалам, якія часта могуць разьлічваць на поўную стыпэндыю. Напрыклад, кампус Барду, сярод іншых установаў, абвешчаны кампусам-прыстанішчам, дзе нелегалы знаходзяцца ў бясьпецы. Затым госьця адказала на пытаньні прысутных: пра мажлівасьці атрыманьня візы O-1, дзе можна пачытаць яе творы, дзе яна цяпер працуе і ці піша кінэматаграфічныя сцэнары.

Затым у разьдзеле "Рознае" адбыліся знаёмствы з гасьцямі "Пагоні", а потым прысутныя мелі мажлівасьць працягваць знаёмствы і калегаваньне пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Магія гуку

У Сан-Францыска 10-га сьнежня адбыўся 10-ы “Drone magic” фэст. Але гэта ня той дрон, пра які вы падумалі. Не адзін Дрон у Полацку... Апрача міні-верталёта, дрон па-ангельску гэта таксама бурдон, што натуральней па-беларуску абазначаецца словам гук. Гук – гэта даўжэйшая трубка дуды, якая зьвісае ўніз, або ляжыць на руцэ дудара і дае сталае, трывалае гучаньне (басуе) – адну ноту. Другая друбка – карацейшая – гэта жалейка, на ёй выігрываюцца мэлёдыі і найгрышы. Трэцяя – у якую дзьме дудар – гэта сапель. Ну і апошняя – чацьвёртая частка дуды, вядома ж, мех, з казінай, цялячай, або барсуковай скуры, а бывала даўней нават і з сабачай (ня ў год сабакі сказана будзе). Але гэта будова беларускай дуды, а дуды бываюць вельмі розныя. Трохі больш на поўдзень Эўропы іх называюць гайдамі, дзе-нідзе сакпіпамі, бэгпайпамі, дудэльзакамі, ці козамі, ёсьць і іншыя менш вядомыя назвы. У кожнай рэгіянальнай або нацыянальнай традыцыі свае адрозьненьні, але агульны, так бы мовіць, назоўнік, ва ўсіх адзін і той, і гэта – рэзэрвуар паветра – мех, функцыю якога, у найгоршым выпадку, замяняюць лёгкія дудара (гэта ў выпадку бязьмехавых дудаў, а такія ёсьць нават у нашай традыцыі).




Усе дударскія традыцыі Эўропы (а гэта ў асноўным эўрапейскі інструмэнт) вельмі прыгожыя і самабытныя. Кожную вылучае адмысловы рэпэртуар, непаўторнае гучаньне, унікальная тэхніка граньня і строеньня. Багацьце гэтай палітры ўжо дзясяты год запар можна назіраць на каліфарнійскім міжнародным дударскім фэсьце. Фэст гэты невялікі, бо дуда сёньня, у нашую эпоху перапраграмаванага гучаньня, інструмэнт ужо нішавы. Але тым ня менш, на ім сёлета былі прадстаўленыя наступныя краіны-рэгіёны: Швэцыя (сакпіпа), Шкотыя (вялікі гайлэндэр), Баўгарыя (гайда), Ірляндыя (уліян пайп), Англія (малая дуда), Гішпанія (гайта), Польшча (каза), Італія (зампонія), а таксама Грэцыя, Малдова і Харватыя. Уся дзея, дарэчы, адбываецца ў Харвацкім культурным цэнтры, а арганізатар “мадзяр” дудар Фэрэнц Тобак. Усе ўдзельнікі – гэта дудары-эмігранты, якія стала жывуць у Амэрыцы, людзі, якія едучы ў далёкі сьвет бралі з сабою тое, што найдаражэйшае – кавалачак сваёй унікальнай культуры. Відавочна, самыя, або іхныя продкі, везьлі з сабою дуды, або майстэрства іх вырабу, і выраблялі іх на месцы. Так і хочацца задацца пытаньнем – а што бралі ў далёкую дарогу з сабою беларусы Амэрыкі? Беларусь на фэсьце прадстаўленая не была.

Калі падаешся ў трывалую эміграцыю, без плянаў на хуткае вяртаньне, то, вядома, што багаж вялікага калібру ні ў якія пляны не ўкладваецца. Такім чынам я, напрыклад, страціў у дзяцінстве сваё піяніна “Беларусь”. Ну куды з такой гаргарынай у Польшчу, праз граніцу? У Амэрыку, праз акіян, і пагатоў. Вядома, колькі каштуе дадатковы багаж на самалёце, ня кажучы ўжо пра асобныя пачкі, і гэта сёньня. А даўней – калі перапраўляліся на караблі, можна было ўзяць яшчэ менш. І ўсё ж шкада, што ніхто зь беларускіх выхадцаў не прыхапіў пад паху любімы і самы галоўны беларускі інструмэнт і не працягнуў трываньне традыцыі, што загасла на нейкі час у пасьляваеннай Беларусі. Шкада.

Памылку трэба выправіць і пастарацца, каб праз год на дударскім фэсьце ў Сан-Францыска была прадстаўленая таксама і беларуская дуда.

***Віталь ВОРАНАЎ***

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

| | |
|---|---|
| І. Акулаў | 60 |
| С. Багданава | 60 |
| В. Даніловіч | 60 |
| Д. Дземчанка | 60 |
| В. Едзіновіч | 60 |
| З. Жарэнка | 60 |
| Г. Катуеў | 60 |
| А. Корзун | 60 |
| В. Красьнік | 60 |
| К. Макарэвіч | 60 |
| А. Паторскі | 60 |
| В. Саяпін | 60 |
| С. Сіткевіч | 60 |
| С. Скародзька | 60 |
| В. Сьпеталюн | 60 |
| П. Усовіч | 60 |
| В. Хобатаў | 60 |
| В. Цыбулька | 60 |
| В. Чарняк | 60 |
| Д. Шкураценка | 60 |
| А. Юшкоў | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **10-га лютага 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| І. Акулаў | 30 |
| В. Даніловіч | 30 |
| Д. Дземчанка | 30 |
| В. Едзіновіч | 30 |
| З. Жарэнка | 30 |
| Г. Катуеў | 30 |
| В. Кіпель | 30 |
| А. Корзун | 30 |
| В. Красьнік | 30 |
| К. Макарэвіч | 30 |
| А. Паторскі | 30 |
| В. Саяпін | 30 |
| А. Сьвістун | 30 |
| С. Сіткевіч | 30 |
| С. Скародзька | 30 |
| В. Сьпеталюн | 30 |
| П. Усовіч | 30 |
| В. Цыбулька | 30 |
| В. Чарняк | 30 |
| Д. Шкураценка | 30 |
| А. Юшкоў | 30 |

**Шчыры дзякуй!**